# Што такое мясцовыя Саветы ?

Мясцовыя Саветы складаюцца з дэпутатаў, якія з'яўляюцца прадстаўнікамі грамадзян у горадзе, раёне ці пасёлку.

Мясцовая ўлада – інструмент для вырашэння надзённых праблем канкрэтнай тэрыторыі. Гэта праца грамадскага транспарту і жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аховы здароўя і адукацыі, а таксама іншыя важныя пытанні.



# Чаму важна выбіраць дэпутатаў мясцовых Саветаў?

Дэпутат мясцовага Савета павінен ведаць праблемы людзей, якіх ён прадстаўляе. Пражываючы ў тым жа раёне, ён сам кожны дзень сутыкаецца з гэтымі праблемамі, і таму інтарэсы выбаршчыкаў – гэта інтарэсы самога дэпутата. Ён больш дасяжны, чым чыноўнікі вышэйшага ўзроўню, і грамадзяне маюць права патрабаваць ад яго вырашэння сваіх праблемаў, а значыць, паляпшаць жыццё свайго горада ці раёна.



## Для сувязі дэпутата і выбаршчыкаў існуюць наступныя механізмы:

- напраўленне пісьмовых прапаноў;
- асабісты прыём;
- рэгулярныя справаздачы аб праведзенай працы;
- разгляд запытаў грамадзян;
- правядзенне сустрэч.



Дэпутат абіраецца на чатыры гады, менавіта таму ў мясцовым Савеце патрэбен такі прадстаўнік, які зможа лепш за іншых вырашаць хвалюючыя цябе і тваіх суседзяў праблемы.
На тэму беларускіх выбараў ходзіць мноства чутак. Мы прапануем убачыць усё на свае вочы. Такім чынам ты зможаш не проста абвергнуць ці пераканацца ў чымсьці, але і пракантраляваць падлік твайго ўласнага голасу.



Ты ўсё яшчэ лічыш, што мясцовыя выбары бескарысныя? Удзельнічай у вырашэнні праблем, якія непасрэдна тычацца цябе і месца, у якім ты жывеш!



